# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ №100




**«Грозно бо бяше и жалостно тогда видети, зане трава кровью пролита, а древеса тугою к земли преклонишася».**
**(«Задонщчына»)**

## МІКОЛА ГАЙДУК *)




Па такім ранку — шэрым ды імглістым, што пад канец лета здараецца, пра ўвесь дзень судзіць можна: як заўтра імжа долам лажыцца — дзень пагожы стане; калі ж туман верхам пойдзе — быць дажджу пасля поўдня.

Ён, стары дзесяцкі Яцук, мяркуючы пра настаўшы дзень, паволі брыдзе з грыдніцы цераз дзядзінец. Падстаўляе сваю здратаваную мазалямі ды рысамі чэрствую далонь пад падаючую імжу і кіруецца ў бок лесвіцы, што вядзе на пляцоўку старажавой вежы.

Юрась ля стайні глянсуе глінкаю і аўчынкай медную акоўку збруі. І так медзь у туманеззяе сонечнымі блікамі, а ён усё трэ і трэ. Які ж гэты Юрась за апошні час ладны стаў: высокі, плечы ўшыр раздаліся, здаровы румянец барвіць шчаку, бы першы прымаразак спелую каліну. Мяккі пухкі волас над вуснамі і па барадзе зачарнеў. Статны з яго муж будзе, па бацьку, відаць, пайшоў!

— Дзядзь, чаго ж на вежу лезці, і так на два сажні нічога не відаць, — заўважае яму Юрась.

І голас то ў яго мужны: глыбокі і цвёрды. А ці ж даўно гэта ён, Яцук, з уцехі, тройчы пускаў у круг свой кованы рог турыны, частаваў сяброў грыдзяў хмяльным мёдам ды настойкамі, калі вестка з цвердзі, з Суража, прыйшла, што яго дачка Мілошка павіла воя-ўнука. Дамоў на дзень-два вырвацца хацеў, бо сын жа быў недзе ў палку з князем. Але дзе ж яму, тадышняму валадару Нарвы, крэпасць пакінуць: полая вада ішла — трэба было дубовыя калодцы з пушчы гнаць, каб сцены крэпасці падправіць ды падняць на некалькі вянцоў вышэй...

Ніяк ужо дваццаты год ідзе, як было тое, а ўсё здаецца быццам гэта ўчора.

— Бач, унуча, — гаворыць як бы са сваімі думамі-ўспамінамі Яцук, — старыя ногі самі, па звычцы, на лесвіцу нясуць. Не мала ж ужо — гадоў трыццаць так, з дня ў дзень, хаджу. І, скажу табе, шмат чаго ўбачыў, нават і ў такой каламуці.

— Э, там! — недаверліва азваўся Юрась. — Яцвяга і пры сонцы цяжка ў кустах прыкмеціць. А то...

— Ну-ну, — спыняе ён унука, узыходзячы на пляцоўку вежы, што сажняў на пяць узвышаецца над варотамі крэпасці прыкрытая счарнелымі ад дажджоў і сонца асінавымі драніцамі. — Гадоў шэсць таму, гэтак як твае пастрыжыны былі, я не то што ўдзень, а ўночы, цэлы ізгон яцвяжскі прыўважыў. — Яцук ведае, што колькі ўжо раз гаварыў пра гэта Юрасю, але не шкодзіць, здаецца, яшчэ лішні раз напомніць пра гэта. — Скочылі мы тады на конь, ды стралой да броду. Вось тут, на плыцізнах, — і ён, выхіліўшыся з-пад дашку вежы, паказвае рукой туды, дзе праз малочную муць імглы паблісквае Нарва, — секанулі мы іх. Заднія то адразу павярнулі, хвасты паказаўшы. А ўсё ж мы некалькі жыўцом узялі, а чалавек шэсць вунь, на тым беразе, і па сёння пад крушняй спачывае...

Што гэта?... Няўжо? Забыўшыся пра ўсё, ён упіваецца зрокам у процілеглы бераг, і ў прорве паміж зваламі імглы, на пясчаным рачным адкосе... Не можа быць! Гэта хіба пад старасць трызненні мучыць сталі... Варушацца... Яны, так яны: у бабровых ворсістых башлыках, лісіх, відаць, нарутках, прыкрытыя шчытамі. І многа ж іх, дзесяткаў шэсць на беразе і яшчэ прыбываюць з лесу...

Трымціць рука ад трывожнага лёскату трашчоткі. І ўсё ж не верыцца яшчэ, ці гэта на самай справе яны. Нешта пякуча ўпіваецца ў руку вышэй локця, і рука бязвольна выпускае трашчотку.

— Яцвягі!.. Братцы, яцвягі, — крычыць ён дзікім голасам. Злосна фуркочуць стрэлы, уядаюцца ў сцены, дашак, слупкі пляцоўкі. Ужо лежачы плашмя на памосце, ён бачыць, як высыпалі з грыдніц на дзядзінец воі, як адрываецца з-пад лесу грамада коннікаў і мкне цераз брод да брамы крэпасці. Перасільваючы боль, ён крычыць:

— Браму! Браму падпірайце-е...

Юрась было скочыў на лесвіцу, відаць, да яго хоча ўзлезці. І ён халадзее з жаху:

— Куды ты? Назад! Праніжуць цябе, як глушца...

І Юр паслухаў, бяжыць разам з іншымі да брамы. Створкі брамы счэпліваюць жалезнымі крукамі, паспешна закладаюць у засаўкі дубовыя друкі. Сярод дзядзінца ўжо стаіць валадар крэпасці Міхаль.

— Маладыя браму самі гаціце, а стральцы да бойніц хутчэй! — крычыць ён і сам кідаецца з лукам і калчанам да бойніцы над брамай.

Стральцы з калчанамі стрэлаў, лукамі, доўбнямі ды мячамі паспешна ўзбіраюцца на падмосткі крэпаснай сцяны і разбягаюцца да прыадчыненых сцьорак бойніц. Напружваюцца, чырванеюць іх твары, спешна штахаюць цяцівы лукаў, ляскаюць кушы, свішча каменне, выпушчанае з прашчаў... Значыць, паспелі, не ўпусцілі ў крэпасць. О, вялікі Сварожа, дзякуем табе за літасць над намі! Дзякуй табе, добры Сварожа...

Пячэ і церпне рука. Рукаў набрак крывёю. Страла прайшла навылет праз мякіш вышэй локця і затрымалася пяром. Трэба як мага хутчэй, пакуль не запухла, пераламаць брэхву стралы і выцягнуць яе. Каб памог хто. Не, ім цяпер не тога. Мус самому. Звяло сківіцы, сплывае халоднымі кроплямі пот з чала, ліецца ў вочы, а ў ваччу мітусяцца ружовыя іскрыстыя кругі. Не паддаецца брэхва, відаць, з грабу высек яе пракляты язвец. Та-а-ак, пераламалася ўсё ж такі. Ну, цяпер трэба яе выцягнуць, зубамі. Трашчыць рука, боль молатам б'е ў скроні. Паволі, надта ж паволі выходзіць яна, ядавітая. Кроў цурком сцякае па пальцах, а рука зусім здранцвела, быццам чужая. О-ох! Выйшла, уся выйшла...

Ужо закручваючы і заціскаючы рану разарваным рукавом кужэльнай кашулі, прыглядаецца да гэтага, пашчапанага зубамі, закрываўленага кавалка дрэва. Колькі ж іх прашывала яго рукі, сцёгны, нават вуха і ўсё ж такі духу не дасталі. І гэтая таксама, але хіба ж будзе і тая, суджаная, не паміраць яму сваёй смерцю...

Праз шчыліны вежы відаць, як спачатку ўпаасобку, а потым групамі адскокваюць яцвяжскія коннікі ад крэпасных сцен. Той-сёй з коней б'ецца пад ездаком, становіцца на дыбкі, іржэ — значыць, панёс у сабе стралу нашую. А вось цягнуць яцвягі і свайго родзіча. Забіты, відаць, так яму і трэба...

Ну, адбіліся мы.

Ля бойніц воі аддыхваюцца, уціраюць успацелыя твары, галдзяць. Дзяўчаты, маладзіцы ды падросткі моўчкі, але ўсё подбегам, носяць і падаюць на падмосткі да бойніц пучкі стрэлаў, падсыпаюць прашчнікам у карабкі каменне. Старэйшыя жанчыны, тайком уціраючы набегшую слязу, разрабляюць ля крэпаснага калодзежа з гліны і вады хлюпастую жыжу, носяць яе цэбрамі і гладышамі на сцяну і ліюць на вонкавыя бярвенні, каб агонь не так лёгка яе ўзяў ды і ворагу ўзбірацца не так лоўка было.

— Дзякуй табе, Яцук, што ў час трывогу падняў, а то б... — гамоняць усхліпваючы жанчыны. — Але ж, што далей з намі будзе? Скот ды коні то ўсе нашы прапалі. Калі і адсядзімся, дык зноў гадоў тры нашы скотніцы пуставаць будуць. Дзе што якое — усё пехта і пехта, ці ў Бельск, ці ў Горадню. Ні малака табе, ні воўны. — Лямантуюць, усплясківаюць рукамі.

— І дало ж нам у такую рань дабро з цвердзі на выган пусціць...

Разнагалосы жаласлівы жаночы лямант пераходзіць у старадаўнюю песню-плач:

Сварожа, Сварожа! Прыкрый нас, няшчасных.
Сварожа, Сварожа! Ахіні дзетак нашых.
Сварожа, Сварожа! Узмоцні сілы нашы.
Сварожа, Сварожа! Ад нас звядзі паганых...

Воі, насупіўшыся слухаюць, з-пад брыва сочаць праз шчыліну бойніц за ворагам.

Пасля няўданага нападу на крэпасць знячэўку, яцвягі рассыпаюцца па выгане, арканяць коней, збіраюць у гурт быдла і авечкі ды кіруюць цераз брод на Нарве ў бок Блудаўскай пушчы.

— А мо' сялікам і абыдзецца, — мяркуе ўголас прашчнік Мсцішка. — Не раз жа бывала, што, павярэдзіўшы, або вярталіся ў свае верві, або ішлі далей на Берасцень ці Драгічын.

— Каб то ж! — уздыхае стралец Уней. — Тады б мы іх дазорылі: не вяртацца ім у іх Судовію з сайгатам. Не то што на Супраслі, але і на Бабры насцiглі б мы іх, паганых.

— Пашто ў згадкі пускаціся, — спыняе іх Міхась. — За вялікая сіла іх тут прываліла, каб толькі па нашае брашно. Сотня іх, а то і болей — штосьці горшае ў іх на мыслі. Борза трэ' ў Крушву, Бельск ды Гарадок весць падаць. Як імгла ляжа — падпальвай! — звяртаецца ён да Унея, паказваючы на віцевы слуп, што ўзвышаецца сярод дзядзінца, увесь спавіты прасмоленымі саламянымі перавясламі.

— А ты, Юрась, ідзі ка мне, — загадвае ён і кіруецца ў грыдніцу.

Юрась лоўка саскоквае з падмостку бойніцы і бяжыць цераз дзядзінец у грыдніцу.

Згадкі нядобрыя халодзяць старое сэрца, а яно зусім пад горла ціснецца. Супакойвайся ты, стары, уйміся! Няўжо можа што-небудзь яму стацца? О, Сварожа! Цяжка караеш ты маю кроў, цяжка. Сынавы косці твае вятры-сухавеі недзе ў стэпах палавецкіх пылам крыюць, а цяпер ты хочаш згасіць адзінае сонца мае змрочнай старасці...

— Міхалю, Міхалю! Не пасылай дзіцяці, не пасылай, малю цябе, — а скупыя, пякучыя старэчыя слёзы так і ціснуцца ў вочы. — Зарэжуць яго, загубяць... — і ён, прысланіўшыся да касяка дзвярэй грыдніцы, засланяе далонню вочы.

— Чаго ты, дзядзь? — унімае яго ўнук. — Не плач, не ўбівайся, прайду як-лень.

— Суйміся, Яцук, — гаворыць ціха Міхаль. — Нужа мяне прымусіла паслаць яго. Да стойбішча руднікаў як-небудзь дабярэцца, а там цераз Крушву ды ў Берасцень паскача. А нас тута, хто ведае, што чакаць можа.

Супакойся, стары, уцішся.

На дзядзінцы ўжо валадар загадвае прашчніку Мсцішку і стральцу Балібору выхіліцца патайным ходам з крэпасці быццам на адбой статку яцвягам, каб Юрасю вольны адвод даць.

Тыя праціскаюцца цераз вузкі пералаз у сцяне і паўзуць, хаваючыся за нарвянскія лозы, бліжэй да броду. Там два яцвягі гарцуюць ля статку быдла, якое чамусьці не хоча ісці цераз ваду. Ад гурту адбіваецца лонская цялушка і падбрыквае берагам Нарвы ў бок Мсцішкі і Балібора. За ёю гоніцца яцвяжскі коннік. На гэта толькі і чакаюць нараўляне. Балібор напінае цяціву і страла мякка грэзне ў яцвяжскіх грудзях. Хрыплівы енк верхавога пужае каня, і той рвецца ўплык. Прашыты стралою яцвяг некаторы час бязвольна хістаецца, прыпаўшы да конскай холкі, і неўзабаве ссоўваецца на стратаваны, чэрствы выган. Яго сябра спачатку было падаецца ў бок упаўшага, але, прыкмеціўшы ля кустоў нараўлян, паварочвае назад да сваіх, нешта крычыць і паказвае на прыбярэжныя лозы.

У грамадзе яцвягаў, што стаяць за бродам, заенчыла берасцяная труба і на яе кліч збягаюцца з наваколля коннікі.

Яшчэ праз колькі хвілін яны асцярожна абкружаюць прыбярэжныя кусты. Нараўляне ж загадзя перабеглі ўжо пад крэпасць. Яцвягі, не знайшоўшы нікога ў кустах, падаюцца да свайго падстрэленага родзіча. Той жа ляжыць на лучны перастрэл ад крэпасці — з бойніц ураз сыпнулі стрэлы і каменне. Храпуць, іржаць ды дыбяцца параненыя коні, гарланяць яцвягі, адскокваючы назад ад крэпасці.

Твары нараўлян праясняюцца. Нават і яму палегчала на сэрцы: вылазка ўдалася — Юрась напэўна ўжо здолеў значна аддаліцца ад крэпасці.

І ўсё ж такі на вялікую ўцеху ранавата.

З усяго відаць, што яцвягі рыхтуюць прыступ на крэпасць. Адны з іх збіваюць з жэрдзя і сухастою плыты на Нарве і Нараўцы, другія звозяць са стагоў і абарогаў, што раскіданы воддаль крэпасці на нараўлянскіх лугах і палетках, снапы і вязкі сена. Ладуюць на плытах плывучыя стагі.

Мітусяцца абаронцы, падкідаюць смолі на палаючы ўжо колькі часу віццевы слуп, тоячы ў сэрцы надзею, што Крушва або Гарадок, а то і Бельск прыўважаць іх біду і на падмогу падскочаць.

О, Сварожа, хісткая гэта надзея!

Ворагі ўжо наладавалі стагоў з пятнаццаць і цяпер, схаваўшыся за гэтыя шчыты — заслоны, пасоўваюцца ўброд з трох бакоў да крэпасці. Ні стралой іх дастаць, ці суліцай калупнуць: у саломе ды сене ўсё застрагне. І падпаліць стагі неяк: абклалі іх яцвягі сырой ялінаю — ад палаючай стралы ім не заняцца.

— Брацця мае і другі, — голас Міхаля дрыжыць і зрываецца, — калі смерць прылучыцца нам, то ўкупе супольную чашу прымем... Прыспела, брацця, нашая гадзіна за цвердзь родную і за сябе пастаяць, аддамо ж паганым воздар семярыцаю!

Цяжка слухаць лямант жанчын, калі яны, прыгарнуўшы малалетак-дзяцей спаўзаюць у падземныя лазы-норы, каб там перачакаць страшную гадзіну. Што з імі будзе, калі крэпасць стане ў агні? У лазах ад дыму і агню задыхнешся, пакуль праграбешся пад крапасной сцяной на той бок. Але такая смерць лепшая, чым жыццё рабамі-калоднікамі, проданымі за мора Варажскае...

Хто толькі можа ўзняць прашу або напяць цяціву лука — усе становяцца да бойніц.

Плывуны-стагі ўжо на лучны перастрэл ад крэпасці.

Калі моцна сціснуць зубы і затрымаць дух, тады можна на момант перамагчы боль у руцэ і напяць цяціву лука. Але пасля таго, як страла вылецела і лук уздрыгвае — трэба заплюшчваць ад болю вочы.

Некалькі яцвягаў адкацілася з-за стагоў далей ад крэпасці, на выган, відаць, раненыя. Пару ляжыць на рачных адкосах — забітыя. Але і ў крэпасці ёсць страты. Прашчніку Мсцішку страла прашыла шыю, і ён віецца на дзядзінцы, захлёбваючыся ўласнаю крывёю. На падмостку ля свае бойніцы ляжыць забіты стралой у вока напавал Уней. Са стралой у грудзях прысеў і не падымаецца ўжо Мірон. Тыя ўжо пад сценамі. Едкі бела-жоўты дым клубіцца ў бойніцах, затапляе дзядзінец, слепіць і душыць — гэта яцвягі падпалілі свае стагі. Нараўляне надрыўна кашляюць, слепнуць у клубах дыму.

— Паддавайцеся! — крычаць яцвягі.

На самым версе сцяны дым не такі едкі. Там, лежачы плашмя, падлеткі спіхаюць на ворагаў калоды, ліюць вар. А тыя лезуць, лезуць.

Ціха, неяк сарамліва плача-стогне падлетак, калі прашчны камень разбівае яму твар або страла прашывае жывот. Яшчэ цішэйшы яго крык, як яму яцвягі скручваюць вяроўкай рукі і ногі ды, сададуўшы нагою ў грудзі, спіхаюць на той бок сцяны, у вечную рабату.



